№6(15)
2000г.
чэрвень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*Да 900 - годдзя Барысава*

У распараджэнні рэдакцыі нашай газеты маюцца сенсацыйныя, невядомыя раней звесткі, якія датычацца заснавання ў 1102 годзе Барысава. Яны будуць абвешчаны ў адным з сёлетніх нумароў нашага выдання.

# Сакоўшчына - мёртвая вёска

## Колькі такіх на Барысаўшчыне?



*Пра паданне, якое тлумачыць паходжанне назваў вёсак Сакоўшчына, Навішчына, і іншых, якія аб`яднаны адной назвай Лёзна, чытайце на стар. 6*













## Якім быць 900-годдзю Барысава?

Год 2002 - двайны юбілейны год для Барысава. Па - першае - 900-годдзе заснавання горада. Па-другое - 210-годдзе надання гораду герба і поўнага магдэбургскага права. Святкаванне гэтых дат, безумоўна, павінна стаць для Барысава найбольш яркай падзеяй апошніх дзесяцігоддзяў.

Якім павінен быць юбілей? Ужо зараз трэба думаць пра гэта. Верагодна, каб свята стала сапраўды ўсеагульным, павінен быць утвораны аргкамітэт, у які, акрамя прадстаўнікоў афіцыйных структур, павінны ўвайсці прадстаўнікі зацікаўленых грамадскіх аб'яднанняў. Ужо зараз павінна быць пачата шырокае абмеркаванне формы і зместу правядзення свята. Можна не сумнявацца, што ў ім будзе выказана шмат цікавых і арыгінальных прапаноў.

*А.Барэвіч*

***Ад рэдакцыі:** газета «Гоман Барысаўшчыны» прапануе чытачам выказаць свой погляд на тое, як павінны адзначацца 900-годдзе нашага горада і 210-годдзе надання яму герба і поўнага магдэбургскага права. Найбольш цікавыя прапановы будуць накіраваны ў аргкамітэт свята. У сваю чаргу рэдакцыя «Гомана Барысаўшчыны» цалкам падтрымлівае ідэю стварэння шырокага аргкамітэта па правядзенню юбілейных урачыстасцяў і заяўляе аб сваёй зацікаўленасці ўваходжання ў яго.*

## Раслі яліны...

Відаць, шмат хто з барысаўцаў звярнуў увагу на тое, што яліны, якія раслі на цэнтральнай плошчы каля штаба арміі, раптоўна высахлі. Спецыялісты з лясгаса ўзялі пробу з высахшых дрэў. Пасля правядзення лесапаталагічнай экспертызы было высветлена, што прычыной, з-за якой загінулі дрэвы быў прамысловы выкід.

## Куды мы ідзем?

На пачатку чэрвеня гарадскі парк некалькі разоў пацярпеў з-за нападу вандалаў. Была паламана дзіцячая лесвіца і драўляныя дзіцячыя пабудовы, што прылягаюць да яе. За тыдзень да таго невядомыя зладзеі разбурылі дзіцячы гарадок, перакулілі і паламалі цацачныя домікі.

Падчас кірмашу, які меў месца ў Барысаве, увесь парк быў абсточаны. Як высветлілася, натоўп п'яных падлеткаў вырваў з «каранем» сілавы размеркавальны шчыт. Дырэктар парка У.Георгіу звярнулася ў міліцыю з просьбай павялічыць на яго тэрыторыі колькасць патрулёў у вячэрні час.

*С.Нялюбін*





*Нагадваем, што на газету «Гоман Барысаўшчыны» можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі. Падпісны індэкс выдання*

**64184**

*Барысаўская гарадская рада ТБМ імя Ф.Скарыны і рэдакцыя газеты «Гоман Барысаўшчыны» паведамляюць, што тыя, хто падпішацца на пяць месяцаў на газету «Гоман Барысаўшчыны», могуць бясплатна па прад'яўленні падпіснога квітка атрымаць адну з новых беларускіх кніг. Звяртацца па тэл. 4-48-47.*

## Вольны час

Дзе праводзілі свой вольны час нашы «продкі», мы добра не ведаем. Цікава будзе даведацца, дзе тусуюцца сучасныя крутыя цінейджары і задумлівыя «акулярнікі». «Дзе вы любіце праводзіць свой вольны час?» - з такім пытаннем мы звярнуліся да 100 маладых барысаўцаў.




*А.Максіменка*

# Страчаныя правы

Неяк, падчас прагляду старых дакументаў, выпадкова давялося трапіць на адзін з іх, у якім узгадваліся далёкія продкі аднаго з маіх сябраў. Яны - Міхалка, Грышка, Нікіпар і Івашка - жылі ў XVIII стагоддзі ў Чэрнеўцы і з'яўляліся прыгоннымі сялянамі панаў Стэфана і Якава Быкоўскіх.

Гаворка ў дакуменце ішла аб копным судзе, які меў месца 24 студзеня 1773 года. У якасці суддзяў на ім выступалі простыя сяляне, сярод якіх і былі родзічы майго сябра. Разглядалася справа аб знішчэнні селянінам з Ваўкавыскага павета Дзіянісіям Буднікам пасекі. Суд прыняў рашэнне аб яго пакаранні праз павешанне.

Безумоўна, нягледзячы на трагічнасць тых падзей, прыемна адшукаць старыя звесткі аб родзічах тых, хто цябе акружае. Але гэты дакумент, дарэчы, як і шмат якія з іншых, дае падставы для роздуму. Больш за дзвесце гадоў таму простыя тутэйшыя сяляне маглі непасрэдна займацца правасуддзем. Прытым, пад копны суд маглі трапіць як «простыя», так і знатныя асобы. Дарэчы, сама сістэма копных судоў на той момант існавала ўжо не адно стагоддзе.

Можна ўзгадаць яшчэ адзін агульнавядомы дакумент - аб наданні Барысаву магдэбургскага права, які быў падпісаны 14 чэрвеня 1792 года. Па ім ўсім жыхарам горада надаваліся шэраг правоў, у тым ліку і права свабодна выбіраць кіраўніцтва горада - магістрат. Ці не праўда, цікавая паралель з сучаснасцю? І такіх паралеляў можна праводзіць мноства.

Беларусь мае вельмі багатыя прававыя дэмакратычныя традыцыі. Статут 1588 года, Канстытуцыя 1791 года, да якіх наша дзяржава мела непасрэднае дачыненне, і шматлікія іншыя дакументы з'яўляюцца сведчаннем гэтаму. Цікава, колькі яшчэ пройдзе часу, перш чым зможам мець правы, якімі валодалі нашы продкі?

*В.Стэфановіч*

## Людзі нашага краю



Фота В.С[illegible]анскага

# Кубак «Незалежнасць»

Спартовы клуб «Волат» упершыню правёў першынства Барысава па футболу сярод дваравых каманд на кубак «Незалежнасць». У турніры прыняло ўдзел дзесяць каманд, якія былі названы па тэрытарыяльнай прыналежнасці: «Чапаева1», «Каніфолька», «Піўзавод», «Прыборы», «Печы» і інш.Каманды былі падзелены на дзве ўзроставыя групы. У першую, ад 13 да 16 год, увайшлі шэсць каманд, у другую, ад 16 да 18 год, - чатыры. У малодшай групе пераможцамі сталі хлопцы з «Піўзавода», у старэйшай групе - «Прыборы».

Камандам, якія атрымалі першыя месцы, былі падараваны відыякасеты з запісамі кліпаў беларускіх рок - гуртоў.Пераможцы турніра будуць прадстаўляць Барысаў у фінальным - агульнабеларускім этапе кубка «Незалежнасць», які пройдзе ў нашым горадзе 21 - 22 ліпеня.

*С.Нялюбін*



# Лён

Лён - традыцыйная культура на Барысаўшчыне. Прымаючы пад увагу, што сёння ў нашай краіне праводзіцца вялікая работа з тым, каб гэтай культуры надаць большую ўвагу, вярнуць страчанае ў яе вытворчасці, рэдакцыя пацікавілася, як ідуць справы ў нашым раёне.У райвыканкаме ад аграрнамічнай службы мы даведаліся, што пасевы ільну ў гэтым годзе займаюць 779 гектараў. Яго вырошчваюць такія гаспадаркі, як «Зара», «Шлях Леніна», імя Чапаева, «Вяляцічы», «Мётча», «Перадавік». З Крупскім ільнозаводам яны заключылі дамову аб пастаўцы яму свайго ўраджаю.Але некалькі год вытворчасцю ільну ў раёне фактычна зусім не займаліся, да таго ж спецыяльнай тэхнікі ў гаспадарках вельмі мала. Улічваючы недахоп рук у калгасах, вырошчванне такой каштоўнай культуры робіцца праблемным.

*М.Пучыла*

# Што наперадзе?

Пасля старту нацыянальнага першынства Беларусі па футболу прайшло ўжо болей за дзесяць тураў. Нечаканы для заўзятараў, але прадказаны спецыялістамі правал «БАТЭ» стаў відавочным. Чампіён - 99 і сярэбраны прызёр - 98 у першым сезоне займае нязвыклае для сябе месца ў сярэдзіне табліцы. І гэта заканамерна. Калі прыглядзецца да сённяшняй гульні і складу «БАТЭ», то можна шмат што зразумець.

«БАТЭ» у абароне спрабуе прымяніць пабудову ў лінію, якая стала моднай. Але для такой гульні неабходны абаронцы, якія здольны дзейнічаць у адборы, маюць добры ўзровень індывідуальнага майстэрства. Продаж у міжсезонне вопытных Савосцікава і Мірошкіна паслабіла абарону «БАТЭ». Раўнавартаснай замены ім у барысаўцаў не знайшлося. Зараз у «БАТЭ» лінія абароны складаецца з моладзі, а асноўную ролю ў абароне барысаўскага клуба даверана Ганчарыку, які яшчэ ў мінулым сезоне гуляў у нападзенні.

Змяненні адбыліся і ў лініях паўабароны і атакі. Продаж шэрагу ігракоў асноўнага складу, у тым ліку Баранава і Скрыпчанкі, таксама адмоўна адбілася на гульні «БАТЭ». Нападзенне барысаўцаў, якое ледзь - ледзь трымалася на старце, «лопнула», як толькі не заладзілася гульня ў Кутузава і быў траўміраваны Лісоўскі. Гульня «БАТЭ» відавочна разладзілася. Паражэнні на старце падцвярджаюць, штокардынальная перабудова складу і тактыкі ў барысаўскай камандзе былі пачаты вельмі рана і з'яўляюцца вельмі рызыкоўнымі.

Можа ў далейшым варта спадзявацца на лепшае? А пакуль як соль на рану гучаць для заўзятараў словы Юрыя Пунтуса: «Цяжка характарызаваць такую гульню. Адчуваю спустошанне... Зусім разладзілася камандная гульня. Не было і намёку на яе малюнак...» (з інтэрв'ю газеце «Прессбол»).

*С.Станкевіч*

# Бяроза

Пару дзён таму, праходзячы каля адной з хат, я заўважыла, як гаспадар, узабраўшыся на бярозу, старанна спілоўваў яе верхавіну. І, здаецца, нават не звярнуў увагі, як я, абураная, спытала, навошта ён гэта робіць. Але калі я паўтарыла, ён буркнуў, што не хапае святла (хоць бяроза стаяла на даволі вялікай адлегласці ад хаты і не перашкаджала ні святлу, ні нават электрычным правадам).

Было такое ўражанне, што людзям, як і раслінам, проста неабходна святло, каб дыхаць, але справа нават не ў святле, а ў тым, каб «навесці парадак», паказаць сваю «адметнасць». Але хучэй за ўсё не адметнасць, а, на жаль, масавасць і самадурства. Калі ўсе каштоўнасці, якія складаліся стагоддзямі, могуць быць у момант знішчаны. Я не думаю, што людзі, якія садзілі дрэвы, былі нечым дурнейшыя за нас, ці хацелі зрабіць шкоду, не! Але ўсё гэта перажыткі нейкай культавай індустрыялізацыі, недалёкасці, люмпінізму, калі чалавек, як дачаснік, прыйшоў на гэту зямлю, каб рушыць далей, а не будаваць сваё жыццё тут.

Напэўна, можна правесці паралель паміж нашым жыццём і гэтым выпадкам. Бо той чалавек, як і мы забыў сваю гісторыю: можа калісьці пад гэтай бярозай признаваўся ў каханні яго дзед або хаваўся ў спёку бацька...

Але гукі пілы становяцца ўсё грамчэйшымі і грамчэйшымі, мужчына з палёгкай уздыхае, і з трэскам падае здаровая крона, пляскаючы аб асфальт пазеленеўшым галлём...

*В.Ліс*

# Як жывеш, дачнік?

У тлумачальным слоўніку беларускай мовы слова «дача» - гэта загарадны дом для летняга адпачынку гараджан. І калі б нехта ўсур'ёз агучыў значэнне гэтага слова для сваіх суседзяў і знаёмых, то няйнакш пачуў бы шмат кпінаў ды вострых слоўцаў. Усё гэта таму, што нашы суграмадзяне нераўнадушныя да «дачнага» пытання.

А пачыналася дачная эпапея ў далёкім 1981 годзе. У той час займець дачу для многіх стала справай гонару. Але дзяржава не спяшалася песціць свой народ, і надзелы даваліся не ўсім і толькі па 6 сотак. Самае ж цікавае гэта тое, што пад дачы давалася тое, што непатрэбна было калгасам - няўдобіцы,пяскі ды балоты. І можна было дзіву дацца, як кінуліся гараджане да працы і асушалі свае надзелы , прывозілі глебу, каб іх падняць, будавалі домікі. А некаторыя будавалі цэлыя палацы. Часта недабудаваныя гэтыя палацы і сёння як помнікі той эпохі стаяць сярод лясоў ды балот, выклікаючы ў сённяшніх дачнікаў не самыя лепшыя пачуцці да кіраўніцтва дзяржавай, якое дазволіла такое глупства і марнатраўства.

Напрыканцы 80-х пачаўся масавы дачны працэс і не займеў яе толькі лянівы. Надзелы сталі да 10 сотак і даваліся часта ў прывабных месцах.

Як жа сёння выглядае сітуацыя? Статыстыка сведчыць, што сёння ў Барысаўскім раёне знаходзіцца 74 зямельныя таварыствы дачнікаў, а зямлёй валодаюць 11 тысяч 393 асобы. Але назваць становішча нармальным не павернецца язык. Дзяржава, што нярэдка з яе боку, пакінула сваіх грамадзян адзін на адзін са сваімі праблемамі. Не забяспечаны нават транспарт для дачных таварыстваў. Вось і едуць людзі ў паўнюткіх вясковых аўтобусах, слухаючы ў свой адрас рознае. А то яшчэ аўтапарк надумаўся пусціць да некаторых таварыстваў, як напрыклад, «Будаўнік», камерцыйныя аўтобусы. І думаюць многія, што даражэй вырасціць ці купіць?

Шмат хто пастараўся прадаць сваю дачу, прыкінуўшы, што вялікага прыбытку яна не дасць. Ёсць і тыя, што да гэтай пары трымаюцца за надзелы зямлі, якія ў іх пазарасталі бур'янам, чакаюць, калі зямля стане прадметам куплі-продажу. Пазбавіліся б сваіх і яшчэ некаторыя, ды вось купцоў няма.

Але тыя, хто застаўся верным дачнай справе, заслугоўваюць усялякай пашаны. Яны ўжо не кінуць сваю любіміцу, не прададуць, а пакінуць яе сваім нашчадкам. Шмат хто з іх вырошчвае добрыя ўраджаі бульбы, іншай гароднінны. У такіх можна пакаштаваць вінаграду, садовых журавін, ажын, абрыкосаў ды іншай экзатычнай садавіны-гародніны.

Клапатлівая дзяржава даўно б звярнула ўвагу на дачнае насельніцтва. У іх ёсць праблемы транспарту, насення, малой тэхнікі для апрацоўкі, дарог, вады і электрычнасці. Затое ўклад іх у харчовую праграму быў бы больш значным.

Не падай жа духам, дачнік, добрых табе поспехаў на ўрадлівых сотках!

*М.Пучыла*

# Музыка жыве тады, калі яе слухаюць

Барысаўская музычная школа мае статус філіяла Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Пагодзімся, што гэта вельмі важная акалічнасць для сцвярджэння культурнага прэарытэту нашага горада.

Кожны месяц у актавую залу школы запрашаюцца ўсе жадаючыя барысаўчане на канцэрты класічнай музыкі з удзелам зорак жанру першай велічыні. Перад мясцовай публікай выступалі, напрыклад, кампазітар Ігар Алоўнікаў і спявачка Святлана Данілюк. Зразумела, што музыка жыве толькі тады, калі яе слухаюць. Актавая зала школы можа прыняць слухачоў намнога больш, чым прыходзіць звычайна на аб'яўленыя канцэрты. Устанаўліваючы сімвалічную цану на білеты, арганізатары тым самым імкнуцца расшырыць кола аматараў класічнай музыкі ў нашым горадзе.

Такім чынам, у кожнага барысаўчаніна ёсць шанц далучыцца да гэтага кола і імкнуцца ў цудоўны свет высокіх пачуццяў і думак.

*А.Турко*

# Без пошты - нікуды

Ці можна ўявіць сябе грамадства, дзе не здзяйсняўся б абмен інфармацыяй? Гэта не магчыма. Ад горада да горада, ад вёскі да вёскі, ад дзяржавы да дзяржавы ідзе паток пісьмаў, бандэроляў, пасылак з падарункамі, віншаванняў... Усё гэта магчыма дзякуючы непарыўнай, прафесійна адладжанай працы паштовай сувязі.

Барысаўскі раённы вузел паштовай сувязі - гэта 51 аддзяленне сувязі, з якіх 14 знаходзяцца ў горадзе, а 37 у раёне. На іх працуюць 250 паштальёнаў. Праца паштальёна не з лёгкіх - практычна ўвесь дзень «на нагах». Для аблягчэння іх працы ім на раёне выдаюць бясплатна ровары, а ў горадзе - праезд на карыстанне грамадскім транспартам.

Для таго, каб не толькі заставацца «на паверхні», але і развівацца далей, неабходна шукаць новыя падыходы да рэалізацыі паслуг, выкарыстоўваць новыя віды сувязі. І яны знаходзяцца. Сёння пошта прадстаўляе такі від сувязі, як EMS (міжнародная паскораная пошта), якая дазваляе ў тэрмін ад трох да сямі дзён даставіць паштовае адпраўленне ў любую дзяржаву свету. Падобная паслуга «Экспрэс пошта па Беларусі» дазваляе здзяйсняць паштовыя дастаўкі па прынцыпу «сёння на заўтра».




Акрамя таго вузел паштовай сувязі заняўся прадастаўленнем такіх нетрадыцыйных паслуг як прыём камунальных плацяжоў, продаж тавараў, перыядычнага друку і іншага. Прадастаўляюцца таксама паслугі тэлефакса і ксеракапіравання.

У межах далейшага пашырэння прадастаўляемых паслуг праводзіцца комплекс работ па абсталяванню вўзлоў сувязі кампутарамі, якія дазволяць адпраўляць пасланні пры дапамозе электроннай пошты (e-mail) у любую дзяржаву свету.

Намаганні калектыва не застаюцца незаўважанымі. У 1999 годзе па выніках работы калектыў работнікаў Барысаўскага раённага вузла сувязі заняў другое месца на рэспубліканскім конкурсе.

Малая колькасць кліентаў, якія карыстаюцца EMS абумоўлена тым, што кошт такіх паслуг не танны. У прыватнасці перасылка ў дзяржавы СНД роўна кошту перасылкі ў дзяржавы Еўропы. Зніжаецца і колькасць паштовых адпраўленняў (пісьмаў, бандэроляў) насельніцтвам у параўнанні з узроўнем да 1990 года. На сённяшні час у сярэднім за месяц праз Барысаўскі вузел сувязі насельніцтвам адпраўляецца 200000 паштовых адпраўленняў. Да 1990 года гэта лічба была роўна 400000 і больш.

Такое ж становішча і з перыядычным друкам. У гэтым годзе ў сярэднім за месяц насельніцтва атрымлівае 620000 асобнікаў перыядычных выданняў (газет, часопісаў), што значна ніжэй 1990 года. Лічба 620000 значна болей насельніцтва нашага горада, але ёсць газеты, якія выходзяць кожны дзень, раз на тыдзень і інш.

*М.Лазар*

# Інтэрнэт у Барысаве

Некалькі гадоў назад да Барысава дайшоў экзатычны, заморскі цуд пад дзіўнай назвай Internet. Тады мала хто ўяўляў, што гэта такое. Але з цягам часу цікавасць да Сусветнага Павуціння павысілася. І 5 красавіка 1999 года для барысаўчан адкрыўся камутаваны беспарольны доступ, які дае магчымасць кожнаму, хто мае мадэм, патэлефанаваўшы па тэлефоне 8-600-100, адчуць усю прыгажосць Сусветнай Павуціны, стварыць сваю хатнюю старонку, удосталь нагаварыцца з цікавым субяседнікам, скажам з Паўднёвай Афрыкі ў chatie ці проста знайсці патрэбную табе інфармацыю.

Расцэнкі дастаткова прымальныя, ноччу і ў святы - танейшыя. Усё здавалася б добра, але існуе і зваротны бок медаля. Якасць нашых тэлефонных ліній + манаполія «БелТелеКама» ў сферы Internet-паслуг дае аб сабе знаць. Так, выбару не застаецца і ці працуй ў Internet праз «БелПаю», ці наогул не працуй. Такім чынам, што ж прапаноўвае нам «БелПак»? На Барысаў з Мінска ідзе ўсяго адзін выдзелены канал з прапускной здольнасцю 65 Кбіт (раней быў яшчэ адзін канал - Alcatet). Да яго круглыя суткі падключаны МП «Фудакан», завод медпрэпаратаў і яшчэ некалькі прадпрыемстваў.

Пры дапамозе dial пр у Internet аднaчасова могуць працаваць (ці займацца чым-небудзь другім) усяго толькі 7 шчаслівцаў. Калі ўсе лініі занятыя - чакайце. А ў апошні час дачакацца стала вельмі цяжка.

Нарэшце вы падключыліся. Тут вас падсцярагае яшчэ адзін сюрпрыз. На «БелПаку» ўстаноўлены мадэмы з хуткасцю перадачы данных 28800 біт/с, але яны наладжаны такім чынам, што рэальная хуткасць ніколі не перавысіць 14400. Да гэтага трэба дабавіць і прапускную здольнасць нашых тэлефонных ліній. Так што хуткасць будзе не вельмі вялікая. І новенькі Zyxel на 56000 біт/с ніяк вам не дапаможа. І яшчэ адзін непрыемны момант. Сувязь мае непрыемную ўласцівасць абарвацца ў самы непадыходзячы момант. Да гэтага трэба быць гатовым.

Можа быць таму толькі 4% беларусаў працуюць у Net`e (для параўнання у ЗША гэтая лічба складае 85%). А можа гэта можна патлумачыць баязню ўсяго новага. А калі вам не падабаецца працаваць у сетцы Internet, то падключайцеся да бесплатнай некамерцыйнай сеткі Fido і будзьце ўпэўнены, што там вы знойдзеце і сябраў, і патрэбную вам інфармацыю.

Удалага вам пошуку на інфармацыйных прасторах і хай вам не сустрэнецца злосны вірус.

# Тутэйшы «хіт - парад» прозвішчаў

Паважаныя чытачы, вас, напэўна, цікавіць, якое прозвішча у горадзе найбольш распаўсюджана? Газета «ГБ» вырашыла знайсці такія прозвішчы на падставе спісу тэлефонных абанентаў жыхароў горада і раёна. Адзначым, што ўсяго на Барысаўшчыне хатніх тэлефонаў налічваецца трошкі больш за 37000.

Пачнем наш хіт - парад (лічбы паказваюць колькасць абанентаў з такім прозвішчам). Пры выборцы шукаліся прозвішчы, колькасць якіх у спісе не менш за 30.

Хацкевіч ......................180
Клімковіч.....................164
Бабіцкі.........................140
Ржеуцскі.......................135
Чарнуха........................123
Іваноў...........................120
Паўлавец.......................108
Гайдук...........................106
Мароз............................104
Сахончык.......................89
Сінкевіч.........................88
Шышла...........................88
Хадасевіч.......................81
Сманцар.........................80
Тарасевіч.......................79
Казак..............................78
Абрамовіч......................76
Марцынкевіч..................72
Моніч..............................72
Пятровіч.........................66
Яраш...............................66
Лапо...............................65
Дакука............................61
Вашкевіч.........................60
Зайцаў............................54
Захарэвіч........................54
Рэут................................54
Верхаводка.....................54
Зуёнак.............................52
Шалак.............................49
Лукашэвіч.......................49
Сацукевіч.......................48
Панкавец........................46
Драгун............................45
Савіч...............................44
Новік..............................43
Астроўскі........................43
Аляксееў.........................43
Паўловіч.........................42
Ермаковіч.......................41
Акуліч.............................40
Лазерка..........................40
Шчэрба...........................40
Ягораў............................37
Акуневіч.........................34
Арлоўскі.........................32
Булай..............................31
Жызнеўскі.......................30

*М.Лазар*

# Сацыяльны бiч

Сацыяльныя сіроты - біч нашага грамадства. Гэтая з'ява абумоўлена не толькі сацыяльна-эканамічным становішчам грамадства, але і адсутнасцю элементарнай павагі да сябе і другіх. Бо што гэта за маці, якая замест таго, каб заняцца выхаваннем свайго дзіцяці, цэлымі днямі і начамі толькі тое і робіць, што шукае дзе і як можна раздабыць чарговую порцыю якога-небудзь алкагольнага напою. А дзеці? А дзеці - гэта лішні галаўны боль і праблема, бо іх трэба карміць, даглядаць, адзяваць. А дзе ўзяць для гэтага час, сілы і жаданне, калі трэба дзесьці штосьці ўкрасці ці каго-небудзь падмануць, каб атрымаць пэўную суму грошай, дастатковую для працягу «свята жыцця»?

Для таго, каб непаўнагадовых дзяцей своечасова выцягнуць з гэтага балота, у Барысаве існуе спецыяльны орган апекі пры ГАРАа, у якім ужо многа гадоў працуе Ніна Кірылаўна Бараўкова.

У размове з Нінай Кірылаўнай мяне цікавіла пытанне: «Колькі бацькоў у Барысаве пазбаўлена правоў у адносінах да сваіх непаўнагадовых дзяцей?». Яе адказ у вас перад вачыма ў выглядзе графікаў.

З далейшай размовы я даведаўся, што ўсе гэтыя людзі - алкаголікі. Большасць з іх ужо былі ці ў месцах зняволення, ці стаяць на ўліку ў наркадыспансеры, ці маюць і тое і другое. У дзяцей, якіх забралі ад гора-бацькоў, 2 магчымасці павароту лёсу. Першы: сваякі прымаюць апеку над дзіцем. Другі: дзяцей накіроўваюць у прыюты, якія, дарэчы, у нас перапоўнены.

Зразумела, для дзіцяці ва ўсіх адносінах лепшы першы варыянт, бо ты жывеш у сям'і, табе ўдзяляюць увагу, іншы раз зробяць падарунак і г.д.

Але, як гаворыць Ніна Кірылаўна, не заўсёды бывае так. Часта сваякі могуць аформіць апеку, але пры гэтым не мець ні малейшага жадання займацца выхаваннем дзіцяці. Чаму ж тады апека афармлялася? Па-першае, гэта робіцца па настаянню радні. Па-другое, некаторых прываблівае датацыя, якой, праўда, асабліва для пенсіянераў (з улікам мізэрнасці іх пенсіі) не хапае нават на прыстойнае харчаванне. І тады ўзбуджаецца справа па пазбаўленню правоў на апякунства апекуноў, а дзіця чакае... 2-гі варыянт павароту лёсу.

Калі паглядзець на колькасць бацькоў, пазбаўленых правоў на сваіх дзяцей, то для нашага 150-тысячнага горада гэтыя лічбы складаюць прыкладна 0,06%. На першы погляд, падстаў для трывогі не многа. Але трэба звярнуць увагу на тэмпы росту гэтых лічбаў. За 4 месяцы гэтага года правоў на сваіх дзяцей пазбаўлена столькі бацькоў, колькі іх было за ўвесь 1996 год. І гэтая тэндэнцыя мае велізарны рост. Калі прыблізна прыкінуць лічбы канца 2000 года - гэта складзе больш чым 120 бацькоў. Такім чынам, прырост складае 30% ад мінулага года. Нескладана падлічыць, што праз 3 гады (пры такім працэнце прыросту) лічба бацькоў, пазбаўленых правоў на сваіх дзяцей, павялічыцца прыкладна да 500 чалавек. А гэта ўжо многа.

На жаль, тэндэнцыя гэтая жывіцца тым, што прыкладна 30% дзяўчат і 50% хлопцаў старэйшага школьнага ўзросту ўжо добра знаёмы са спіртным. Адсюль паўкрока да алкагалізму, ад якога, як і ад наркаманіі, пазбавіцца амаль немагчыма.

*М.Лазар*

**Колькасць бацькоў, што пазбаўлены сваіх правоў**

**Колькасць непаўнагадовых дзяцей, якія засталіся без бацькоў у выніку пазбаўлення іх сваіх правоў**




# «QUAKE 3»

QUAKE 3: Арэна - камп'ютэрная гульня, якая захапіла сэрцы вялікай колькасці прыхільнікаў ва ўсім свеце, бо дае магчымасць іграць некалькім ігракам па сетцы. Іменна гэта дазволіла QUAKE з цягам часу ператварыцца ў спорт. А ў любым відзе спорту ёсць турніры і спаборніцтвы.

13-14 траўня ў памяшканні гульнёвага клуба «Tarnada» праходзіў 1-шы чэмпіянат Барысава па сеткавай гульні QUAKE 3: Arena. Жадаючых пазмагацца набралася каля 40 чалавек.

У першы дзень праводзілі адборачныя гульні і гульні сярод пераможцаў. Ва ўпартай барацьбе адсеяліся навічкі і аматары. Засталіся толькі тыя, хто правёў мноства гадзін у трэніроўках. Ні разу не прайграўшы, у фінал выйшаў Бабіцкі Ігар (Angel).

На другі дзень гулялі тыя, хто па волі выпадку, хоць аднойчы прайграў. Барацьба была вельмі напружанай, бо нават нязначная памылка магла прывесці да паражэння. Так Мажэйка Андрэй (Butcher) на апошняй хвіліне ўступіў усяго толькі адно ачко Агеенка Аляксандру (El-Quad) і прайграў. Выдатна гуляў Гара Андрэй (Garik), але яму, на жаль, удалося дайсці толькі да паўфінала.

У фінале сустрэліся Бабіцкі Андрэй (Angel) і прадстаўнік клубнага клана Паўловіч Дзяніс (T9- Shade). Каб пазбегнуць выпадковасці, між імі было праведзена 6(!) паядынкаў. Гледачы напружана сачылі за барацьбой прафесіяналаў і гадалі, хто ж пераможа. Перамог Shade, па-праву заслужыўшы тытул чэмпіёна Барысава па Q3A.

Некалькі слоў аб прызах. Удзельнікі, што занялі з 2 па 16 месца, атрымалі сэрвіс-карты, якія дазваляюць адгуляць 10 гадзін са скідкай 100 рублёў, а тыя, хто заняў з 2 па 10 месца, удабавак да карт - яшчэ і майкі з эмблемай клуба. Галоўны прыз - сэрвіс-карту на 10 гадзін са скідкай на 50% атрымаў, вядома ж, Паўловіч Дзяніс, але ён (высакародны жэст!) перадаў яе Бабіцкаму Ігару (другое месца).

Дзякуючы арганізатарам чэмпіяната Цяраеву П. (BooM) і Хадачынскаму Р. удзел у турніры быў бясплатным, каб усе жадаючыя змаглі пазмагацца за званне чэмпіёна. Вялікую дапамогу ў правядзенні аказалі таксама МП «Фудакан» і прадпрымальнік Д.Задарожны.

І апошняе. У канцы чэрвеня кіраўніцтва клуба плануе правесці чэмпіянат па стратэгічнай гульні «StarCraft». Усе, хто не развучыўся трымаць у руках мыш, прыходзьце і перамагайце!

*А.Шумскі*

# Гарант бяспекі?

Прагрэс, разумееце, эвалюцыя!.. Асобныя людзі і ўсё чалавецтва разам разумнеюць з кожным днём. За імі, наступаючы на пяткі, цягнецца не вельмі сумленная праслойка, якая складаецца са злодзеяў - яны не хочуць адставаць ад навукова-тэхнічнага прагрэсу і таксама разумнеюць, хоць кол ім на галаве чашы, але ж разумнеюць з кожным днём.

У наш час адчыніць звычайны замок звычайнага чалавека - што ўвайсці ў расчыненыя насцеж дзверы, ды яшчэ змазаныя, для вернасці, алеем. Не у кожнага цяпер хопіць грошай купіць дарагі замок, ды і ён не можа быць гарантам бяспекі, бо ў злодзеяў ёсць шмат спосабаў, каб дабрацца да чужога дабра. Але ж хочацца папярэдзіць нашых жыхароў, каб яны ні ў якім разе не карысталіся безнадзейна ўстарэлымі «навяснымі» замкамі, якія ахоўваюць большасць дамоў вёсак і гарадскіх дамоў прыватнага сектара. Гэтыя замкі служаць цяпер не для аховы, а выконваюць ролю шыльдачкі, якая красамоўна кажа: «Калі ласка! Нікога няма ў хаце!»

Дзеля зручнасці можна дакласці яшчэ поўны спіс каштоўных рэчаў, якія ёсць у доме і ўказаць месцы, дзе іх можна знайсці.

Не задумваліся аб гэтым?

Не пашкадуйце грошай, купіце ўразны замок, хаця б самы просты, адкрыць яго, канечне, будзе не вельмі цяжка, але ў гэтым выпадку злодзей рызыкуе сутыкнуцца нос у нос з гаспадаром хаты і ў лепшым выпадку атрымаць сіняк пад вока, бо ў яго не будзе ўжо ніякай гарантыі на тое, што нікога не будзе дома. Таму можа ён прысядзе на ваш ганак, паслухае трошкі спевы птушак ды і прызадумаецца: «Мо і сапраўды пачаць чэснае жыццё?»

*У.Гадун*

# Купалле

Купалле - гэта свята сонца, росквіту жыцця, сіл прыроды,якая дасягае ў гэтым часе свайго найвышэйшага развіцця, гэта самае насычанае абрадамі старажытнае свята. Адзначаецца яно ў ноч з 23 на 24 чэрвеня (паводле старога стылю). У купальскіх абрадах вялікае месца займае сімволіка дзвюх стыхій - агню і вады.

Купальскае вогнішча - у цэнтры ўсяго свята. Яшчэ ў мінулым стагоддзі яго запальвалі старадаўнім спосабам, тручы адзін аб другі брусы дрэва. У купальскім агні бачылі ачышчальны і ахоўны пачатак. Вакол купальскага агню моладзь вадзіла карагод.

Раней сцвярджалі, што купальскія агні маюць сілу даваць ураджай, праганяць смерць. Скакалі праз агонь, закаханыя - парамі. І калі іх рукі не разыходзіліся, то гэта добрая прымета: вяселле іх у гэтым жа годзе павінна адбыцца. Праз увесь час ля вогнішча не змаўкалі песні, жарты. Пасля моладзь ішла да рэчкі, дзяўчаты пускалі вянкі на ваду. А сталыя людзі гутарылі аб мінулым, згадвалі пра ўсялякія дзівосы.

У паганскія часы нашы далёкія продкі верылі, што ў гэты дзень сонца ў вобразе дзецюка спраўляе вяселле з багіняй лета. І яны збіраліся між сёл на ўзгорках, каля вады, ладзілі там ігрышчы ды ў гэту ноч «умыкалі» сабе дзяўчат на жонак. А каб такі шлюб меў законную сілу, дапаўнялі яго ўстаноўленымі звычаямі: ачышчаліся ад грахоў, купаючыся, скачучы праз вогнішча. Людзі верылі, што ў гэту ноч зацвітае кветка папараці, якая дае чалавеку шчасце і сілу, паведамляе пра ўсе таямніцы прыроды. Здабыць кветку шчасця вельмі цяжка. У самую поўнач яна раскрываецца, таму, хто шукае кветку, здаюцца розныя страшыдлы. Яны імкнуцца перашкодзіць чалавеку. Надыходзіць навальніца: зіхацяць бліскавіца, грыміць гром. Каму ж удалося сарваць кветку, павінен ісці не аглядаючыся, дамоў і не звяртаць увагі на пагрозы і спакусы ведзьмаў.

Захавалася паданне, што аднаму селяніну кветка трапіла ў абутак, і ён мог бачыць тое месца, дзе захаваны скарб, але яму трапілася ведзьма і прапанавала новыя боты, Чалавек абрадаваўся і прыняў прапанову. Але, на жаль, абуваючы боты страціў запаветную кветку, а з ёю і ўсё шчасце.

Верылі, што ў купальскую ноч вельмі многа ўсякай нечысці, асабліва ведзьмаў. Павер'і суправаджаліся рознымі засцерагальнымі дзеяннямі. У некаторых мясцінах мужчыны ўсю ноч ахоўвалі жыта, бо калі ведзьма сарве некалькі каласкоў, жыта перастане радзіць. Асцерагаліся, што ведзьмы могуць адабраць у кароў малако, таму гаспадары абсыпалі хлеў макам, на парог клалі крапіву-жыгучку, а на вароты хлявоў вешалі калючы дзядоўнік. Коней не вывозілі на начлег.

Лічылася, што зёлкі, сабраныя ў ноч на Купалле, маюць цудадзейную сілу. Гэта вераванне грунтуецца на шматвяковым назіранні за прыродай, за лекавымі ўласцівасцямі раслін. Яно і на самай справе так. Купалле - зеніт лета, пара, калі сонца дасягае свайго апагею, калі даспяваюць травы. Натуральна, што сабраныя гэтай парой зёлкі мелі пэўную лекавую моц.

Людзі заўважылі, што на Купалле рэчкі і азёры свецяцца прывідным святлом. Сапраўды, месяц у гэтую пару моцна адбівае сонечныя промні, і бязвоблачнай ноччу паверхня вадаёмаў можа адсвечвацца блакітным святлом.

Прайшло з таго часу шмат стагоддзяў. На змену паганству прыйшло хрысціянства. Але купальскае свята жыве. Няхай Купалле служыць нам вечнай памяткай, што сонейка заўсёды перасільвае цемру ночы, і ў гэтым мы будзем чэрпаць веру, што ўсё светлае, добрае, справядлівае зваюе адвечнае зло і дасць змогу жыць і развівацца на волі ўсяму жывому...

*Паводле В.Раманцэвіч*



Фрагмент скульптурнай групы «Купалле» ў Менску
Скульптар - барысавец А.Анікейчык

# Птушкі нашага краю

Людзі настолькі прывыклі да братоў нашых меншых, што амаль не заўважаюць іх і амаль нічога не ведаюць аб іх жыцці. А жыццё іх вельмі цікавае. У кожнага чалавека ёсць такая добрая магчымасць назіраць за імі, але ж за вялікімі магчымасцямі людзі не жадаюць прыпыніць свае марныя пошукі на працягу жыцця і хвілінаčку адпачыць, услухацца ў шапаценне лісця, удыхнуць свежага паветра, прайсціся басымі нагамі па прахалоднай зямлі, наталіцца спевамі птушак і ўсміхнуцца, гледзячы на наіўных жывёл, тою ўсмешкаю, якая робіць нашае жыццё па-сапраўднаму шчаслівым.

**Вераб'і.**

Напэўна, самыя вясёлыя і самыя блізкія да чалавека птушкі нашага краю - вераб'і. І проста дзіўна, што мы вельмі мала ведаем аб такіх блізкіх суседзях.



Ці скажа хто з вас, чым адрозніваецца верабей палявы ад дамавога вераб'я? І для мяне яны доўгі час былі на адзін выгляд, але ўсё ж ёсць істотная розніца. Не трэба іх блытаць, верабей - птушка шумлівая, назаві яго чужым імем - без скандалу ўжо не абысціся.

Дамавы верабей па ладу жыцця і па паводзінах вельмі падобны да палявога, але адрозніваецца афарбоўкай галавы: цемя папялістае, а шчокі без чорных плямак, ды і памерамі ён пацнеей. У яго найболей чым у палявога выяўлена залежнасць ад нашага з вамі жылля. Дамавыя вераб'і, засяляючы гарады і вёскі, сілкуюцца самым разнастайным кормам. Некаторыя арнітолагі лічаць, што менавіта іх усяеднасць з'яўляецца асноўнай прычынай «ненармальнай» светлай афарбоўкі некаторых з птушак, якіх называюць альбіносамі.



У палявога вераб'я верх галавы афарбаваны ў каштанавы колер, у яго чорны падбародак і вуздэчка, на белых шчоках паўмесяцам чорныя плямы. І хаця ён таксама жыве непадалёку ад чалавека, але ж не харчуецца абы чым, палявы верабей застаецца выключна раслінаедный птушкай. Толькі гадуючы птушанят ён можа палявацьна жукоў, матылькоў, тлю ці павукоў.

Блізкасць вераб'ёў да чалавека найболей праяўляецца ўзімку, бо гэтыя маленечкія птушкі не могуць выносіць марозных начэй.

Месца для жыхарства верабей шукае з выключнай вынаходлівасцю: ныдбайнае, круглявае гняздо, выcланае мяккім пер'ем, ён будуе ў дуплах дрэваў, у шпакоўнях, пад стрэхамі хат, у гнёздах гарадскіх ластавак, у падножжы жылых гнёздаў белых буслоў, у норах беражанак...

Лістапад для іх - гэта пачатак зімоўкі. Да сакавіка іх асноўным заняткам становяцца пошукі корму і месц для начлегу.

Ужо ў сонечныя студзеньскія дзянькі па чарадзе вераб'ёў пралятае перадвясеннее ўзбуджэнне, што праяўляецца ў празмернай жвавасці і без таго непаседлівых птушак і ў большай інтэнсіўнасці іх вакальных практыкаванняў. У канцы сакавіка яны распадаюцца на пары, і ўжо з пачатку красавіка самыя нецярплівыя з іх пачынаюць будаваць гнёзды. Будуюць гняздо і выседжваюць носку (з пяці-шасці яек) абедзьве птушкі каля двух тыдняў. Птушаняты, першы раз зірнуўшы на блакітнае неба з-пад крыла бацькі ці маці, каля трынаццаці-васемнаццаці дзён праводзяць у гнёздах. Пасля двух тыдняў яны аб'ядноўваюцца ў невялічкія (да пяцідзесяці птушак) чароды, якія паступова павялічваюцца і павосені дасягаюць некалькіх соцен.

А потым - зноў лістапад, пабудова роднага гнязда, снежныя завеі, зноў вясна - цягнецца жыццё, і птушкі нясуць на сваіх крылах спевы і радасць.

*У.Гадун*

# Хто ў лесе шкодзіць...

Калі мы, беларусы, гаворым аб прыродзе, то маем на ўвазе перш за ўсё лес. Паглядзеўшы на карту зямельных угоддзяў Барысаўскага раёна, можна толькі замацаваць свае ўяўленні аб ролі лесу ў нашым жыцці. 49% нашай тэрыторыі занята ляснымі масівамі, што складае 143 тысячы гектараў.

Угоддзі аднаго з самых буйных у вобласці Барысаўскага ляггаса падзелены на 16 лясніцтваў. У тым ліку 4 лясніцтвы арганізаваны літаральна сёлета. Да іх адышлі няўдобіцы, балоты і наогул недагледжаныя лясы, якія належылі раней калгасам раёна.

Лес - нацыянальнае багацце, і ён павінен прыносіць прыбытак. Але каб гэта было так, зусім не са спажывецкага пункту гледжання патрэбна падыходзіць да карыстання лесу. Таму ў аддзеле аховы і абароны лесу Барысаўскага ляггаса сканцэнтраваны адзін з самых важных напрамкаў работы шматпрофільнай ляснойгаспадаркі. Інжынер па ахове і абароне лесу Іван Віктаравіч Паяркаў сваю галоўную задачу вызначае так - агульны нагляд за станам лесу. Але ж усё агульнае складаецца з прыватнага і канкрэтнага, што і ўвасабляецца ў штодзённай рабоце лесніка.

550 гектараў лесу, падзеленых на 6-7 кварталаў, складае абход лясніка. Зразумела, што каб зберагчы лес на такой вялікай тэрыторыі, патрэбна ведаць пра яго ўсё. Кваліфікаванаму, вопытнаму лясніку пад сілу такая задача. Але такіх не хапае. Сістэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў у лясной гаспадарцы рэспублікі з ёй пакуль не спраўляецца.

Як і чалавек, лес хварэе - і яго патрэбна лячыць. Інжынер-лесапатолаг Алена Пятроўна Лявонава гаворыць аб многіх прычынах захворвання, галоўная з якіх - лясныя шкоднікі. Для выяўлення ачагоў кожны ляснік мае першачарговы абавязак запоўніць спецыяльны лісток сігналізацыі аб з'яўленні шкоднікаў, калі заўважыць прыкметны лёт матылькоў, усыханне дрэў, аб'яданне хвоі ці лістоты, іншыя пашкоджанні, і перадаць яго ў лясніцтва. Пасля ў адпаведнасці ад віду шкоднікаў, плошчы паражэння, прымаецца рашэнне або аб высечцы ўчастка, або аб хімічнай апрацоўцы.

Грыбнікі і ягаднікі, напэўна, бачылі ў лесе таблічкі, якімі забараняецца выкарыстанне дароў лесу ў сувязі з хімічнай апрацоўкай. Але хімізацыя выкарыстоўваецца ў рэдкіх выпадках з-за таго, што яна і не бясшкодная, і дарагая. Летась, напрыклад, правялі хімічную апрацоўку 35 гектараў лесу толькі ў Пруд-Баранскім лясніцтве супраць звычайнага сасновага пілільшчыка. Перавага ж аддаецца біялагічным сродкам барацьбы са шкоднікамі.

Вялікай праблемай апошніх гадоў у барысаўскіх лясах з'яўляецца ўсыханне ельнікаў. На пачатку сёлетняга года значылася 50 гектараў такога лесу, які на сённяшні дзень ужо высечаны. Прычыну спецыялісты звязваюць з паніжэннем узроўню грунтовых вод у сувязі з «татальнай» меліярацыяй. Леташнія замеры паказалі, што ўзровень грунтовых вод панізіўся ў некаторых месцах на 1 метр, а яліна, як вядома, мае не паверхневую, а глыбінную каранёвую сістэму.

Так, што і казаць - асноўным і самым небяспечным шкоднікам у лесе быў і застаецца сам чалавек. І.В.Паяркаў сведчыць, што асноўныя сілы лесаахоўнай службы вымушана затрачваюцца на барацьбу з самавольнымі высечкамі лесу. Летась самавольна было высечана больш за 1.204 м.куб. драўніны, чым нанесены ўрон эканоміцы на суму 4 мільярды 670 мільёнаў недэнамініраваных рублёў. Але сіламі лесааховы ў супрацоўніцтве з раённай міліцыяй выяўлена 1.034 м.куб. украдзенай драўніны і дзяржаве вернута больш за 870 мільёнаў рублёў. Практычна з 88 выпадкаў крадзяжу лесу выяўлена 78.

Не застаюцца беспакаранымі і выяўленыя выпадкі выкідвання ў лес бытавых адходаў, а працей кажучы - смецця. Летась за такое парушэнне складзена 13 пратаколаў.

Як бачна, работнікі лесу ловяць і караюць самых розных шкоднікаў. Але як злавіць самага небяспечнага шкодніка - скнапнасць і бяздушнасць?

*А.Турко*


Марат і Юрый Талецкія

# «Alex Racing Club»

Калі заязджаеш у Барысаў па Маскоўскай шашы з маскоўскага накірунку, то адразу кідаецца ў вочы дом з прыбудаванымі да яго гаражамі і рэкламнымі шыльдамі «Alex Racing Club» і «Спартыўна-тэхнічны аўтаклуб». У гэтым доме, дарэчы, пабудаваным самім гаспадаром Аляксандрам, жыве сям'я Талецкіх. Чаму я пішу менавіта пра ўсю сям'ю Талецкіх - зразумееце далей з гэтага матэрыяла.

Унікальнасць гэтых людзей у тым, што іх прыватны аўтаклуб з'яўляецца адным з двух ва ўсёй Беларусі. Пра спартыўныя дасягненні аўтагоншчыкаў-карцінгістаў Марата і Юрый ўжо неаднойчы пісалі многія барысаўскія і рэспубліканскія перыядычныя выданні. Напомнім, што таленавітыя хлопцы амаль што на кожных этапах, праводзімых у сталіцы нашай рэспублікі спаборніцтваў, займалі прызавыя месцы. Даводзілася прысутнічаць на такіх гонках і аўтару гэтых радкоў. Ніколі раней не думаў, што ўбачу такі накал барацьбы. Хуткасць карцінга дасягае 90 км у гадзіну, а колькі эмоцыяў і перажыванняў у час і пасля гонкі! Хваляванні захлёстваюць нават болей, чым на футбольным матчы. І тады пачынаеш разумець, што вось гэтыя хлапчукі адстойваюць гонар нашага горада. Шкада, што барысаўскія патэнцыяльныя спонсары не выкарыстоўваюць такую магчымасць для рэкламы сваёй дзейнасці, а тым самым і падтрымкі землякоў.

Але гэта ўсё як кажуць фасад, а за ім многа чарнавой работы. Па-першае, гэта падрыхтоўка тэхнікі. Дарэчы, абодва карцінгі набыты Аляксандрам за ўласны кошт, хоць гэта быў моцны ўдар па сямейнаму бюджэту. Шматлікія трэніроўкі, на якія трэба абавязкова выязджаць у Мінск, бо толькі там існуе належная траса.

І хоць усё гэта патрабуе вялікіх матэрыяльных расходаў і часу, сям'я Талецкіх ідзе на гэтыя ахвяры. Азіза, жонка Аляксандра Талецкага, актыўна дапамагае сваім карцінгістам, заўсёды выязджае з імі на спаборніцтвы. І калі набліжаецца чарговая гонка, уся сям'я пачынае рыхтавацца да яе, цяжкасці забываюцца і адыходзяць на другі план. Трэба многае ўлічыць, што ўзяць з сабой, тэхніка ўжо выпрацавала свой рэсурс і дабівацца выніковасці становіцца ўсё цяжэй.

Але Аляксандр ідзе супраць усіх гэтых цяжкасцей і тым самым выклікае да сябе павагу. Згадзіцеся, не вельмі шмат у наш меркантыльны час знойдзецца такіх людзей. Але дзякуй Богу, што яны ёсць і жывуць побач з намі. Сам Аляксандр у мінулым аўтагоншчык, удзельнічаў у спаборніцтвах. Можа таму ён так сур'ёзна адносіцца да гэтай справы. Па падрыхтоўцы тэхнікі, экіпіроўцы хлопцаў (сапраўдныя спартыўныя камбінізоны і шлемы), ва ўсім відаць прафесіяналізм майстра. (Дарэчы, любы аўтамабіліст можа атрымаць ад Аляксандра бясплатную кансультацыю па рамонту любога аўтамабіля.) Нядаўна ў клуб прыйшоў яшчэ адзін шасцігадовы хлапчук. Аляксандр знаходзіць час займацца з ім нараўне са сваімі сынамі.

Хутка чарговыя этапы спаборніцтваў і калі не паляніцца прасачыць за іх анонсамі і прыехаць у Мінск на вул. Макаёнка,12, ці на трасу «Баравая» пад Мінскам, то можна пабачыць усіх гэтых цікавых людзей, пабываць на сапраўдным спартыўным свяце. Нават дзядуля Марата і Юры прыязджае пабалець за сваіх унукаў. Жадаем сям'і Талецкіх поспехаў і здзяйснення сваёй мэты.

*Л.Гадун*






# Крыніца мудрасці

Соль. З-за гэтага мінерала некалі пачыналіся войны, пракладваліся марскія і зямныя шляхі. Соль рабіла гісторыю. Сапраўды, да першай паловы XXI стагоддзя соль заставалася рэдкім прадуктам. Такім чынам, гісторыя солі - гэта гісторыя гандлю, спекуляцый, гандлёвых і палітычных інтрыг. У Італіі па сённяшні дзень дзейнічае даўні закон, які не дазваляе чэрпаць ваду з мора, каб забраць яе з сабою. За гэта можна атрымаць гіганцкі штраф. Такім чынам гэты закон забяспечвае дзяржаўную манаполію на вытворчасць і продаж солі. Зразумела, што з эканамічнага пункту гледжання гэта зараз не выгадна. Але раней менавіта так і рабілі.

Хларыд натрыя - гэта не проста «сталовая сол ь», як яго найчасцей называюць. Соль патрэбна не толькі як кулінарная прыправа. Прысутнасць ці адсутнасць яе - пытанне жыцця ці смерці. Без солі немагчыма пражыць: чалавек, не ўжываючы солі, хутка даходзіць да астэніі, а доўгачасовая яе адсутнасць вядзе да немінуемай смерці. Неабходны для жыцця хларыд натрыя, трапляючы ў арганізм, затрымліваецца ў касцях, аказваецца ў розных вадкасцях, якія цыркулююць па чалавечаму целу. Штодзённае індывідуальнае ўжыванне солі вар'іруецца ад жыццёвага мінімуму 0,5г да 10г і больш, у залежнасці ад клімату і тыпу цывілізацыі. Максімальнае ўжыванне - 40г назіраецца ў Японіі. Соль выконвае вельмі важную функцыю ў чалавечым арганізме, яна падтрымлівае гідрамінеральную раўнавагу і рэгулюе ціск і аб'ём крыві. У стане раўнавагі крывяная сываратка ўтрымлівае 8г солі на літр. Акрамя гэтага соль, дзякуючы іону хлора садзейнічае стараванню, падтрымліваючы ўзровень кіслотнасці ў страўніку pH - 1,4. Соль выконвае фундаментальную функцыю ў вышэйшай нервнай дзейнасці, дзе яна служыць для перадачы інфармацыі, пры рабоце сэрца.

Яшчэ да засваення халадзільных тэхналогій соль дазваляла хутка кансерваваць усё неабходнае без прымянення такіх доўгіх працэсаў, як сушка і вяндленне. Пры вытворчасці кансерваў, у сыраваранай, а таксама ў скураной прамысловасці без яе немагчыма абысціся. Прасыпаць соль на стол лічылася дрэннай прыкметай яшчэ ў старажытных рымлян, так лічыцца па сённяшні дзень. Жаданага госця сустракаюць з хлебам-соллю. Футбольныя фанаты зганяюць «злых духаў» са стадыёна, кідаючы пакеты з соллю на дарожку, акаляючую поле. Соль выкарыстоўвалася раней і выкарыстоўваецца зараз супраць «злых духаў».

Салігорск, Салікамск,Зальцбург, Грундзальц, Зальцкаммергут, Галле, Галлейн, Галлштадт - назвы знакамітых гарадоў, дзе здабывалася раней ці здабываецца па сённяшні дзень каменная соль, так неабходная кожнаму чалавеку.

*У.Гадун*

# Ліпень

*Характар месяца, які з'яўляецца ядром лета, адлюстраваны ў прыкмеце-прыказцы: «Ліпень што спаліць агнямі, тое зальле слязамі» - маўляў, надвор'е звычайна ўраўнаважанае, з чаргаваннем сонца і дажджу. У ліпені работы ў полі і на агародзе прыбаўляецца. «Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае», «Хто ў ліпені на полі пацее, таго ўзімку і печка грэе» - у доўгія сонечныя дні трэба добра папрацаваць.*

**1/18.** Лявонцій, Іпацій, Фядул.

**2/19.** Іуда, Варлам, Паісій, Засіма, Іван.

**3/20.** Мяфодзій, Глеб, Андрэй, Гурый, Іна, Рыма, Апанас, Міна.

**4/21.** Юльян, Цярэнцій, Юлій.

**5/22.** Яўсей, Зянон, Галакціён, Ульяна.

**6/23.** Агрыпіна, Арцём, Герман.

**У ноч з 6/23 на 7/24** - Купалле (Купала, Ян, Іван). Царкоўнае свята Ражство Іаана Хрысціцеля. Напярэдадні гэтага свята збіралі кветкі на вянкі, рабілі запасы лекавых раслін ад рознай немачы. Асаблівую ўрачыстасць святу надавала купальскае вогнішча. Дзяўчаты і хлопцы адусюль сцягвалі розную старызну (атопкі, абноскі, непрыгодны драўляны посуд, палазы, якія ад'ездзілі свой век), а таксама траецкі ссохлы «май» і вывозілі ўсё гэта да ракі, дзе меркавалася гулянне. Агонь для вогнішча здабывалі ад трэння драўляных брускоў. Як сімвал сонца ўздымалі на шасце запаленае кола. Полымя купальскага вогнішча надзялялася ачышчальнай сілай, хлопцы і дзяўчаты скакалі праз яго. Моладзь забаўлялася гульнямі, варажбою, вадзіла карагоды, спявала песні. Верылі, што ў купальскую ноч на папараць сыходзіць агонь Перуна і яна ўспыхвае яркім цветам. «Хто гэту кветку здабудзе, будзе мець што пажадае...» У паданнях расказваецца, што ў купальскую ноч расліны размаўляюць між сабою, дрэвы пераходзяць з месца на месца, рэкі свецяцца прывідным святлом, чараўнікі і ведзьмы ўсяляк шкодзяць людзям. Каб не дапусціць «нячыстую сілу», над парогамі хат і хлявоў вешалі розныя прадметы, якімі ведзьма магла парэзацца, пакалоцца, апячыся, - сярпы, іголкі, крапіву. Людзі качаліся па купальскай расе, сустракалі ўсход сонца, у гонар якога некалі і святкавалася Купалле.

**8/25.** Фяўронця, Пятро, Давыд, Ефрасіння.

**9/26.** Давыд, Дзяніс, Ціхан, Іван.

**10/27.** Самсон, Георгій, Марцін. «На Самсона дождж - сем тыдняў то ж!»

**11/28.** Сяргей, Герман, Ксенафонд, Павел.

**12/29.** Дзень Пятра і Паўла (Пятрок). Гэтаму дню папярэднічаў пятроўскі пост, які пачынаўся праз тыдзень пасля Сёмухі і выклікаў асаблівую незадаволенасць мужчын-касцоў. Народам заўважана: калі гразь на Пятроўку, то будзе добры ўраджай. «Калі Пётра з Паўлам плачуць,дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць». Лічылася, што калі на Пятро дождж, то на Новы год мяцеліца. «Прыйшоў Пятрок - апаў лісток».

**13/30.** Дзень 12 апосталаў.

**!4/1.** Кузьма і Дзям'ян. У гэты дзень пазбягалі працаваць у полі і на агародзе.

**15/2.** Фоцій, Ювеналій, Ціхан, Васіль, Нікан, Арсень.

**16/3**. Філіп, Анатоль, Васіль, Кастусь, Іван, Нікадзім, Дзямід, Яўлампій, Марк, Аляксандр.

**17/4.** Андрэй, Марфа, Яўхім, Хвядос, Хвядоцця, Хведар.

**18/5.** Апанас, Сяргей, Ганна, Кірыл.

**19/6.** Ульяна, Марфа,Вялянцін, Інакенцій, Антон, Лук'ян, Сідар.

**20/7.** Фама, Акакій, Еўдакія, Ефрасіння, Лук'ян, Герман.

**21/8.** Дзень Казанскай Божай Маці. У гэты дзень забаранялася працаваць.

**22/9.** Панкрат, Кірыл, Аляксандр, Хведар.

**23/10.** Лявонцій, Маўрыкій, Даніла, Антон, Аляксандр.

**24/11.** Яўхімія, Вольга, Алена.

**25/12.** Прокл, Міхал, Хведар, Іван, Арсень, Сымон, Гаўрыла. На пакутніка Прокла чакалі вялікіх рос, ад якіх магло пагнісці сена, таму яго стараліся высушыць да гэтага дня. Згодна з каталіцкім календаром, у гэты дзень шанаваўся Якуб, які быў арыенцірам метэаралагічных прадказанняў: «Які Якуб да поўдня - такая да снежня зіма».

**26/13.** Гаўрыла, Сцяпан, Юльян, Серапіён, Маркіян. У каталіцкага насельніцтва гэта дзень Ганны. «Святая Ганна раніцы халодзіць», «Калі на Ганну раніца халодная - зіма будзе ранняя і халодная».

**27/14.** Сцяпан, Анісім. Па каталіцкаму календару Дзень Сямі спячых братоў. Пераконвалі, што калі ў гэты дзень пойдзе дождж, то будзе ісці без перапынку сем тыдняў.

**28/15.** Уладзімір, Васіль.

**29/16.** Афінаген, Павел, Валянціна, Юлія.

**30/17.** Марына, Маргарыта, Лазар, Леанід.

**31/18.** Емяльян, Іван.

***Падрыхтавала І.Сямёнава***

# Азонавы экран

Азотна - кіслародны склад атмасферы, нягледзячы на ўбываючую шчыльнасць паветра, застаецца пастаянным да вышыні 100 кіламетраў. Яшчэ да адкрыцця тэрмічнай структуры атмасферы, вучоныя прыйшлі да высновы, што не ўся сонечная радыяцыя, якая згодна падлікаў, павінна пападаць на Зямлю, сапраўды трапляе на яе паверхню. Жосткае кароткахвалевае выпраменьванне недзе губляецца.

«Віноўнікам» паглынання шкоднага выпраменьвання з'яўляецца азон, які ўтвараецца з кіслароду пад уздзеяннем маланкі, сонечнай і касмічнай радыяцыі. Азон знаходзіцца на адлегласці 20-50 кіламетраў над узроўнем мора. Пры нармальным атмасферным ціску і тэмпературы паветра каля нуля градусаў па Цэльсію таўшчыня азонасферы складае ўсяго чатыры міліметры. Менавіта гэта невялікая праслойка выконвае ролю радыяцыйнага шчыта, які захоўвае жыццё на нашай планеце.

*А.Новікаў*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-14 за 1996 - 2000 гг.)*

## Вайна са Швецыяй

Напрыканцы XVII стагоддзя склалася кааліцыя супраць Швецыі. У яе ўвайшлі: Рэч Паспалітая, Маскоўская дзяржава (Расія) і Данія. У 1700 годзе спачатку Польшча і Данія, а потым і Расія напалі на Швецыю. Першыя вайсковыя дзеянні прынеслі поспех саюзным войскам. Аднак хутка адбыўся пералом. Ужо ў жніўні 1700 года Данія пад пагрозай страты незалежнасці вымушана была заключыць мір са Швецыяй і выйсці з вайны. У восень маскоўскі манарх Пётр І атрымаў значную паразу пад Нарвай, а 11 траўня 1701 года шведскі кароль Карл XII уступіў са сваім войскам у Варшаву. Неўзабаве быў узяты і Кракаў.

Тым часам у нашым гаспадарстве - Вялікім княстве Літоўскім працягвалася барацьба паміж Агінскім і Сапегаю. Агінскі меў болей поспехаў у гэтым змаганні. Сапега ж, які не вельмі добра адносіўся да Аўгуста II, звярнуўся за дапамогаю да Карла XII. Для апошняга гэта з'явілася падставай, каб увесці свае войскі ў Вялікае княства.

Летам 1704 года ў Польшчы вайсковая ініцыятыва перайшла на бок Аўгуста. У 1705 годзе на тэрыторыю Вялікага княства былі ўведзены ў якасці саюзных маскоўскія войскі. На пачатку 1706 года Пётр І у другі раз за час вайны прыехаў у нашу дзяржаву. Да свайго войска ён ехаў з Воршы ў Менск. Натуральна, што ён не мог мінуць Барысаўшчыну.

У хуткім часе Польшча выйшла з вайны. Асноўным супраціўнікам Карлу XII засталася Масковія. Вялікае княства, на землях якога развярнуліся далейшыя падзеі, вялікай вайсковай сілы на той момант не мела. Да таго ж у нашай дзяржаве значная частка шляхты выступала за саюз з Швецыяй.

Маскоўскі гаспадар Пётр І лічыў Барысаў адным з гарадоў, у якім неабходна размясціць значныя сілы дзеля стрымання націску шведаў. Акрамя таго праз наш край пастаянна праходзілі розныя вайсковыя фармаванні. Яшчэ 23 лютага Пётр І загадваў ісці з Воршы на Менск пяці батальёнам, 1000 драгунам і 700 новым рэкрутам.

У красавіку 1706 года ў Барысаве ўжо знаходзіўся полк расійскіх жаўнераў. Была ў нашым горадзе ў гэты час і харугва Вялікага княства Літоўскага, якую ўзначальваў генерал Сініцкі. Праз Барысаў у той час пастаянна праязджалі вышэйшыя маскоўскія вайсковыя кіраўнікі. Агульная колькасць вайскоўцаў у нашым краі вельмі хутка павялічвалася. З Полацка да нас былі накіраваны 200 чалавек пяхоты, якія былі пасаджаны на коней. Тыя, хто меў горшых коней, павінны былі застацца ў Барысаве, а астатнія мусілі ехаць далей у Менск. У жніўні 1707 года праз Барысаў праязджае маскоўскі царэвіч Аляксей і робіць тут прыпынак.

Забеспячэнне ежай і ўсім неабходным войска ўсходняга саюзніка, якое размясцілася на Барысаўшчыне, вяло тутэйшых жыхароў да жабрацтва. Таму настрой у грамадстве да маскоўцаў быў не вельмі спрыяльны. Стасункі паміж войскамі Княства і Масковіі, а таксама паміж апошнімі і тутэйшым насельніцтвам цяжка было назваць саюзнымі. Так, Пётр І у сваім лісце князю Міхаілу Галіцыну ад 19 сакавіка 1707 года ўказваў, што ў маёнтках Радзівілаў, Шчукінаў і іншых, калі знойдзецца хлеб або жывёла, - браць усё.

У першых месяцах 1707 года з Масквы для сваіх войскаў былі накіраваны грошы ў памеры 40000 рублёў (па іншых звестках - 30000 рублёў). Пасля таго як службоўцы з грашыма перайшлі Барысаў, на іх напалі жаўнеры барысаўскай харугвы Вялікага княства, забілі маскоўцаў і забралі ўсю казну. Усё гэта адбывалася пры маўклівай згодзе, ці нават падтрымцы Сініцкага. Пазней, 24 красавіка на сойме Аршанскага павета гэты ўчынак быў, практычна, ухвалены. Акрамя таго, каб паменшыць колькасць маскоўскіх войскаў, што адыходзілі з Менска на Барысаў, Сініцкі загадаў разабраць у Барысаве мост праз Бярэзіну і паставіць на яго месцы ахову. Таму Пётр І у сваім лісце Шарамету ад 12 траўня 1707 года ўказваў на неабходнасць пільна сачыць за дзеяннямі войска Вялікага княства Літоўскага і яго начальнікаў.

Восенню 1707 года праз Менск у Барысаў адышлі і засталіся тут артылерыйскі полк Бутарэрава і сем грэнадзёрскіх рот.

21 студзеня 1708 года, калі шведы пачалі набліжацца да Горадні, Пётр І загадвае Шарамету збіраць усе палкі, што былі каля Менска і Слуцака, і тэрмінова ісці да Барысава. Гэты ж загад падцвярджаецца ў лісце ад 23 студзеня. Аднак ужо 25 студзеня ў сувязі з тым, што рушанне шведаў спынілася, Пётр І загадвае Шарамету спыніцца і чакаць далейшых указанняў. Праз два дні - 27 студзеня маскоўскі гаспадар зноў загадвае Шарамету ісці з войскам да Барысава і далей рушыць у накірунку Полацака. Аднак войска рушыла толькі да Барысава. Тым часам 26 студзеня 1708 года Карл XII захапіў Горадню.

У сярэдзіне лютага 1708 года з войскам у Зембіне пэўны час знаходзіўся Меншыкаў. Ён прасіў з яго ў Пятра І даслаць у Барысаў дадатковa казакаў і татараў дзеля аператыўных дзеянняў перад шведамі, якія наступалі. Доўгая прысутнасць вялікіх войскаў у нашым краі вяло да голаду. Так, Меншыкаў з-за адсутнасці ежы і фуражу быў вымушаны сысці з Зембіна, аб чым ён пісаў адтуль 15 лютага. 16 лютага Меншыкаў ужо быў у Барысаве, дзе і знаходзіўся пэўны час. Аднак і ў наваколлях Барысава справы з ежай і фуражом былі не значна лепей, аб чым пісаў яшчэ 21 студзеня Пятру І Шарамет.

*(Працяг будзе)*

*М.Мацельскі*

*Наша часцёўня*

# Песня пра зязюлю

Ці то ўсхамянулася сонца за борам  
Промням пяшчотна кранула раку:  
Ляціць у нябёсы з каханнем, з дакорам:  
«Якубка, Якуб!», ці, як рэха: «Ку-ку».

То плач і гуканне дзяўчыны Зязюлі  
Увесну гучыць над самотнай зямлёй.  
Пра гэтую птушку няўжо вы не чулі  
У веснім краі - Беларусі маёй?

Ці то прыпадзе стары лірнік старанна  
Да струнаў (і словы сладаў ён як мог).  
Спевы: «Жылі дзве дачушкі у пана:  
Абедзве былі прыгажуні, дальбог.

Малодшую звалі Зязюляю. Марай  
Назвалі другую. Зязюля з душой  
Чысцюткай крынічнай была. Чорнай хмарай  
Хавалася сэрца ў грудзях у другой.

Улетку дзяўчаты любілі купацца  
У возеры чыстым між белых лілей,  
Дзе правілі стрыбаўкі гульні і танцы.  
Ў глыбінях, казалі, там жыў чарадзей.

І бачылі людзі ў маланках пякучых,  
Калі навальніца пужала агнём,  
Яго у луцы і ў кароне бліскучых.  
Напэўна, вужакам ён быў каралём.

Даўней шмат хто ведаў пра тайныя чары,  
Гарачае зелле шыпела змяёй.  
Аднойчы задумала злосная Мара  
За нешта адпомсціць сястрыцы сваёй.

Давай яна клікаць купацца Зязюлю.  
(Спякота стаяла тады на зямлі).  
Азёрныя хвалі іх разам памкнулі,  
Ад берага ўдалеч яны паплылі.

Ды Мара адстала і на ўзбярэжжа  
Вярнулася ціха, як хітрая рысь.  
Схапіла сваю і сястрыцы адзежу  
І хутка пабегла далёка кудысь.

Выходзіць Зязюля і думае: «Зданне».  
Заместа адзення яе на пяску  
Зіяе - ляжыць залатое убранне,  
А ўзор нагадаў ей змяёву луску.

І толькі яна апранулася паспела,  
Вужакаў кароль сам прадстаў перад ёй:  
Прыгожы ды статны, ды позірк меў смелы.  
Забраў ён Зязюлю ў палац пад вадой.

Жыла там жанчына у шчасці й каханні:  
На мілага мужа ёй толькі б глядзець.  
Здавалася, й зорк і спяшаліся раннем  
У азёрных глыбінях ля іх зіхацець.

Ды толькі тугу па радзіме, як жала,  
У сэрца яна не змагла не пусціць,  
У смутку прасіць у каханага стала,  
Каб ў хаце бацькоўскай пусціў пагасціць.

Не змог адказаць той кароль сваёй любай:  
«Як будзеш вяртацца, - сказаў у журбе, -  
Апоўначы выйдзеш на бераг, Якуба  
Паклічаш, тады я й пачую цябе».

А дома Зязюлі не сталі дзівіцца:  
Заплакала маці, ды бацька быў рад.  
А злосная Мара і тая ў сястрыцы  
Шукала нібыта сяброўскіх парадаў.

Ды зманлівым шэптам і словам ліслівым  
Даведацца ёй удалося тады,  
Дзе ейнай сястрыцы жылося шчасліва  
І як ёй вужаку дазваціца з вады.

Як толькі сцямнела, драпежнікам-зверам  
Пракралася Мара на бераг. Яна  
Паклікала вужа - чакае з сякерай.  
Ён выпаўз на бераг з азёрнага дна.

І тут жа душой загавеў чарадзейнай -  
Згарэла яна, як маланка - свяча.  
Да берага бегла Зязюля з надзеяй,  
І раптам крануў яе сэрца адчай.

Прыбегла. Свяціць ёй у зорачак просіць,  
Гукае: «Якуб!» Цішыня ля вады.  
Ён белай лілеяй, сарванай на плёсе,  
Ледзь шэпча: «Загінуў я, знік назаўжды!»

Каханай паверыць у смерць немагчыма:  
«Якубка! Якуб! - усё крычала, - Якуб!»  
Пакуль шэрай птушкай не стала дзяўчына  
І неслася рэха над лесам: «Ку-ку!»

І з дрэва на дрэва Зязюля ляцела.  
У небе пагаслі ўжо зорак агні,  
І возера ранішнім сонцам мігцела,  
А любага ўсё не дазвацца, ані.

Маёй Беларусі ўлюблёная песня -  
Гуканне Зязюлі ў бары маладым!  
О, пэўна, і вам неадночы увесну  
Маленькая птушка лічыла гады.

*А.Маеўская*

# Загадка Лёзна

Зараз назва Лёзна (Ліозна) мала каму што гаворыць. Але яшчэ з 1928 па 1937 год на Барысаўшчыне быў Лёзенскі сельсавет (дарэчы, польскі). Гэта паняцце аб'ядноўвала некалькі невялікіх вёсак на поўдні нашага краю. Чаму вёскі, акрамя ўласных назваў, мелі яшчэ агульную? Вось што на гэты конт давялося даведацца некалькі год таму ад тамтэйшага старэйшага жыхара Людвіга Антонавіча, які нарадзіўся ў 1919 годзе і даведаўся пра гэта калісьці ад сваёй бабкі.

Пасля падаўлення паўстання Касцюшкі тым вайскоўцам, хто ўдзельнічаў у яго задушэнні, раздаваліся землі без прыгонных сялян. На землях, якія аб'яднаны назвай Лёзна, ніхто не жыў. Таму яны і папалі пад раздачу. Пасяліліся тут недалёка адзін ад аднаго вяскоўцы Навішчын, Сакоўшчын, Ніціеў, Шаблін і Мазаніч. З цягам часу яны абзавяліся сем'ямі, вакол іх хат сталі ўзнікаць і іншыя хаты. Узніклі вёскі, якія назвалі па прозвішчах вяскоўцаў - Навішчына, Сакоўшчына, Ніціеўшчына, Шаблiншчына і Мазанічы. Усіх разам іх называлі Лёзна.

Яшчэ да апошняй вайны ўсе гэтыя вёскі існавалі. Зараз жа існуюць толькі Навішчына, Ніціеўшчына і Шаблiншчына.

*А.Барэвіч*

# Тутэйшы кнігазбор

*У 60-х, 70-х, 80-х, першай палове 90-х гадоў своеасаблівым цэнтрам прыцягнення літаратурных і другіх інтэлектуальных сіл г. Барысава быў сціплы дом па вуліцы Марозава (непадалёк ад педкаледжа), у якім жыў і працаваў Леанід Рашкоўскі - без перабольшвання чалавек гераічнага лёсу. Калі няўмольная хвароба зваліла яго з ног, ён знайшоў занятак, які дазволіў яму застацца карысным, патрэбным людзям: стаў пісаць вершы. Героі яго вершаў - людзі з высокім парогам адказнасці, абавязку, моцныя духам рамантыкі, якія горача любяць жыццё.Многа пісаў для дзяцей.*

1. **«Хай не паміраюць зоркі»** Вершы, Мінск, 1968г.
2. **«Як пінгвіну шылі фрак»** Вершы, Мінск, 1970г.
3. **«Чамучка»** Вершы, Мінск, 1973г.
4. **«Лівень»** Вершы, Мінск, 1975г.
5. **«Трубач»** Вершы, Мінск, 1976г.
6. **«Пераадоленне»** Вершы, Мінск, 1979г.
7. **«На вясёлай каруселі»** Вершы, Мінск, 1984г.
8. **«Адкрыццё»** Вершы, Мінск, 1987г.

# Прыродная лякарня

У чэрвені і ліпені збіраюць **палын**, які сустракаецца па ўсёй тэрыторыі Беларусі. На Барысаўшчыне яго доўга шукаць не трэба - расліна да 1 метра вышынёй з характэрным моцным пахам і вельмі горкім смакам утварае зараслі на пустэчах, вакол жылля, на агародах.

З лекавай мэтай збіраецца трава і карэнні палыну. Збіраюць верхавінкі кветканосных сцяблін з лісточкамі у час цвіцення. Карані выкапваюць восенню.

У медыцыне палын выкарыстоўваюць для паляпшэння апетыту, як супакойваючы сродак , пры неўрастэніі, болях і спазмах у кішэчніку, страўнікавых і кішэчных дыспепсіях. Трава ўваходзіць у склад жоўцегонных збораў. У народнай медыцыне водны адвар ці настойку прымяняюць пры страўнікавых хваробах, захворваннях печані, нырак, ад глістоў. Зялёныя лісты прыкладваюць на мазалі, а сухай травой пасыпаюць жывёл, падлогу, мэблю ад блох.

Каб прыгатаваць лекавы настой, трэба 1 чайную лыжку сухой травы заварыць як чай у 2 стаканах кіпятку, настаяць 20 хвілін, працадзіць. Прымаць па 1/4 шклянкі за 30 хвілін перад ежай.

Тэрмін захавання травы палыну - 2 гады.

**Кроп пахучы**, траву якога збіраюць у час цвіцення, выкарыстоўваецца пры гіпертанічнай хваробе. Адвар гэтай лекавай расліны мае спазматычнае дзеянне. У народнай медыцыне адвар пладоў ужываюць пры дзіцячай дзіспепсіі, паносах, болях у жываце, пры захворваннях печані, павышаным ціску; адвар травы і пладоў пры запаленні мачавога пузыра.

Каб прыгатаваць лекавы настой, трэба 1 сталовую лыжку семян кропу пахучага заварыць 1 шклянкай кіпятку, настойваць 30 хвілін. Прымаць па 1/2 стакана 1-2 разы на дзень. Траву з лекавай мэтай завараюць і п'ць як чай.

*І.Магуш*







# Знаёмцеся - Крым

*Шмат хто ўпэўнены ў тым, што добра ўсведамляе тое, што ўяўляе сабою Крым. У свядомасці большасці людзей - гэта перш- наперш мора, пляжы ля падножжа гор, санаторыі і дамы адпачынку. Але гэта толькі адна частка таго, што вабіць мільёны людзей на гэты паўвостраў. Сёння мы пагаворым пра яго іншы бок. Крым - гэта вельмі цікавая і разнастайная прырода. Тут ёсць горы са шматлікімі пячорамі і адмысловымі натуральнымі скульптурамі - скаламі. Нідзе ў сумежных з Беларуссю дзяржавах няма настолькі багатага краю на старажытныя помнікі культуры і архітэктуры. Усё гэта найпрасцей, найтаней і з найбольшай карысцю для здароўя можна ўбачыць праз актыўны адпачынак, напрыклад, праз велатурызм.*

Крымскі паўвостраў невялікі, а яго горы маюць яшчэ меншую працягласць. Таму там вельмі развіты пешы турызм. Аднак, каб здолець паглядзець паболей і паспець трошкі адпачыць ля мора, лепей усё ж здзейсніць такі паход на роварах. Да Сімферопаля і назад мэтазгодна даехаць на цягніку. Не забудзьце, што ровар пры гэтым неабходна перавозіць у спецыяльным мяху ў разабраным выглядзе. Білет пажадана набыць туды і назад на Беларусі. На крайні выпадак білет на зваротны шлях можна набыць і там. Але вам гэта абыдзецца даражэй.

Што можна паглядзець у Крыме? Цікавых аб'ектаў там столькі шмат, што толькі на іх пералічэнне не хапіла б гэтай старонкі. Спынімся толькі на асобных з іх. Горны Крым сам па сабе вельмі прыгожы. Да таго ж, як ні здавалася б гэта шмат каму дзіўным, але там нямала глухіх бязлюдных месцаў, дзе на многія кіламетры няма нічога, акрамя лясоў і горных схілаў. Калі вы гэта не ўбачыце, то ніколі не зможаце па-сапраўднаму зразумець і адчуць існасць гэтага краю. Непаўторныя ўражанні вы зможаце атрымаць на вяршынях гор. Дарэчы, для ўзыходжання на іх не патрабуюцца ні спецыяльныя прылады, ні нейкая асаблівая падрыхтоўка. З вяршыні адной з найвышэйшых тамтэйшых гор Чатырдага можна ўбачыць амаль увесь паўвостраў. А ўзыход сонца, які можна назіраць з вяршыні Айпетры, пакіне ўражанне на ўсё жыццё. Шмат у гарах і разнастайных прыродных «твораў мастацтва», якія з'яўляюцца вынікам уздзеяння ветраў і ападкаў. Асабліва гэта ўражвае ў так званай «даліне Прывідаў» на заходнім схіле гары Дэмерджы. Ёсць у Крымскіх гарах і вадапады. Але летняя спёка робіць іх, як і рэкі ў Крыме, наогул амаль бязводнымі. Самым «шматводным» тамтэйшым вадападам з'яўляецца вадапад Джурджур каля пасёлка Генеральскае.

Адным з найбольш цікавых прыродных аб'ектаў у Крыме з'яўляецца Вялікі каньён. Яго шырыня ў некаторых месцах звужаецца менш чым да дзесяці метраў, а вышыня яго бакоў пры гэтым дасягае 200 - 300 метраў. Найбольш вузкая частка каньёна амаль непраходная. Аднак шлях да яго, на якім вам сустрэнуцца маленькія азерцы з крыштальна чыстай і празрыстай вадой, так званыя «ванны» і невялічкія вадапады, не змогуць пакінуць вас абыякавымі.

Калі весці гаворку аб унікальных прыродных аб'ектах Крыма, нельга не ўзгадаць яго печоры. Але яны - гэта тэма для асобнай гутаркі.

Не менш цікавыя, чым прырода, гістарычныя помнікі Крыма. Херсанес - адзін са старажытных гарадоў паўвострава. Знаходзіцца ён на ўскрайку Севастопаля. Заснавалі яго грэкі ў V ст. да нашага часу. Тут можна назіраць мноства рэштак антычных паганскіх храмаў, першых хрысціянскіх бажніцаў, сапраўдны амфітэатр ды шмат што яшчэ. Для параўнання - агульная плошча толькі раскапанай часткі Херсанеса ў 3-4 разы перавышае плошчу цэнтральнага парка Барысава.

Вялікая колькасць у Крыме і сярэднявечных пячорных гарадоў. Гэта Чуфуткале, Тепекермен, Мангупкале, Бакла і інш. Большасць з іх існавалі з IV - VIII стагоддзя, а асобныя нават з II стагоддзя. Нямала на паўвостраве і крэпасцей і замкаў. Найбольш цікавыя з іх у Балаклаве, Судаку ды ў іншых месцах. Безумоўна, цікавым для наведвання з'яўляецца старая сталіца тамтэйшага ханства Бахчысарай. У больш старой сталіцы - Старым Крыме акрамя некалькіх паўразвалін, што не вельмі ўражваюць, і месцаў, што звязаны з Грынам, нічога няма. У гарах яго наваколля захаваліся будынкі старога армянскага манастыра Сурб-Хач. Ён быў заснаваны ў XIV стагоддзі і працяглы час з'яўляўся адным з найгалоўных цэнтраў армянскай культуры па-за межамі Арменіі.

Якія спецыфічныя праблемы чакаюць вас падчас турыстычнага паходу па Крыме? Па - першае, не забывайце, што тэмпература наваколля там працяглы час можа быць значна вышэй за тэмпературу вашага цела, Гэта і паўсюднае сонца, ад якога амаль немагчыма схавацца, робяць у Крыме велапаходы дастаткова цяжкімі. Таму плануйце шлях на дзённыя пераходы ў 2,5 - 3 разы меней, чым па Беларусі, ці ў 1,5 - 2 разы меней, чым у тых самых умовах у Карпатах (пра магчымасці велавандровак у Карпаты мы пісалі сёлета ў № 3 - 4). Па - другое, неабходна памятаць , што з вясны да восені ў Крыме ўваход у лясы з-за пажарнай небяспекі забаронены. На практыцы гэта не азначае, што ў лес ніхто не ходзіць. Але з вогнішчам, а значыць і з прыгатаваннем ежы ў вас могуць быць праблемы. Акрамя таго, на паўднёвым узбярэжжы, калі вы нават і здолееце знайсці маленькі кавалак лесу і спыніцеся там, да вас вечарам абавязкова завітае ляснік.

Пра Крым можна распавядаць бясконца. Ён варты таго. Але хацелася б, каб для кагосьці, хто прачытае гэтыя радкі, яны паслужылі штуршком для здзяйснення паходу па цудоўных мясцінах. І толькі калі вы ўбачыце ўсё яго хараство, а не толькі марскія пляжы, вы па-сапраўднаму зможаце ацаніць унікальнасць гэтага слаўнага краю, які называецца Крым.

*А.Гурскі*





*1. Мыс Ласпі*
*2. Антычны горад Херсанес*
*3. Ханскі палац XV I-XVIII ст.ст. у Бахчысараі*
*4. Пячорны ўспенскі манастыр каля Бахчысарая*
*5.Паўднёвы бераг Крыма да сярэдзіны XIXст. быў амаль не заселеным. Адной з прычын таму былі пастаянныя опаўзні. Сляды опаўзня на самым паўднёвым пункце Крымскага паўвострава - мысе Сарыч*







*6. Чуфуткале - пячорны горад X-XIXст.ст.*

*7. Горы ад Алушты да Феадосіі яшчэ нядаўна былі пакрыты суцэльнымі карабельнымі лясамі. Аднак у другой палове XIXст. яны былі высечаны. Дажджы змылі глебу. Зараз тут, нягледзячы на вялікія намаганні, нічога не расце*

*8. Вячэрняя Ялта*

*9. Судак*

